# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №50 (159), 14 СНЕЖНЯ 1994 ГОДА. КОШТ 50 РУБЛЁЎ




Машына часу вярнула нас назад. Здаецца, мы, тыя, каму сёння каля сарака, памаладзелі на дваццаць гадоў. На мінулым тыдні ў Мінску (!) для нас граў і спяваў легендарны брытанскі "Slade" — гурт нашай маладосці, юнацтва, нашых вострых адчуванняў тае даўняе пары, нашага пратэсту і нашых надзей. У зале танцавалі дацэнты, журналісты, банкіры, дзяржаўныя чыноўнікі, інжынеры — тыя, хто былі студэнтамі-інтэлектуаламі ў сямідзесятыя гады, а сёння вызначаюць гэтае жыццё. Танцавалі пад тую музыку ў жывым выкананні, ад якой жалезнымі заслонамі нас адгарадзілі выхавацелі-бальшавікі, але якая тым не менш пранікала да нас скрозь перашкоды радыёэфіру, пераадольвала мытныя бар'еры. Адрываючы ад студэнцкага бюджэту свае "чырвонцы", мы скідваліся ўтрох, учатырох і набывалі замежнай прадукцыі кружэлкі "Doors" і "Deep Purple", "Led Zeppeling" і "Slade", каб пасля начамі, не зважаючы на стомленасць, слухаць пранізлівыя акорды і інтанацыі сваіх заходніх сучаснікаў, у якіх адлюстроўваўся, пакутаваў, радаваўся, разважаў сам Час. Натуральна, нашае пакаленне маладых "homo soveticus" было шматстайным. Хтосьці любіў Крысталінскую і Мулермана, Абадзінскага ці Гораўца. Я і мае сябры слухалі "Slade"...
Тады, калі яны былі на грабяні сусветнай славы, калі канкуравалі з самімі "The Beatles", лонданскія музыкі не маглі быць разам з намі ў Мінску. Гэта была ўзаемная нелюбоў — іх да нашых камуністычных уладаў і наадварот.



Праз дваццаць гадоў яны сыгралі ў новай Беларусі. Вядома ж, не ўсе. Ноддзі Холдэр, былы вакаліст "Slade", сёння займаецца толькі сваімі папулярнымі радыёпраграмамі як дыскжакей. Чэз Чэндлер увогуле вядзе вясковы лад жыцця, зусім адышоў ад музыкі. Двое ж з заснавальнікаў супер-гурта — Дэйв Хіл і Дон Паўэл — па сённяшні дзень не пакідаюць той музыкі, якую лічылі і лічаць сэнсам свайго жыцця. Яны ўтварылі "Slade — II" і ўжо са сваімі новымі калегамі сыгралі для нас. Вядома, гучанне сённяшняга "Slade" крыху іншае, чым два дзесяцігоддзі назад: іншыя магчымасці апаратуры, іншы вакал. Але жыццесцвярджальная, "завадная", крыху істэрычная атмасфера таго "Slade" засталася. Выканаўцы апраўдалі назву гурта: слэнгавае слова азначае "быць прыбітым тым, што табе вельмі падабаецца, што цябе захапляе". Нас таксама "прыбіла" гэтая музыка. Здаецца, час не паўплываў на імідж эксцэнтрычна-вясёлага, шоўмэна-завадатара, гітарыста Дэйва Хіла. Яго дуэтныя партыі з барабаншчыкам Донам Паўэлам выклікалі шквал авацый у зале. На тыя амаль паўтары гадзіны, што адбывалася шоў, і музыкі, і публіка забыліся пра свой узрост. Нам усім было па васемнаццаць-дваццаць гадоў. Добры, цудоўны рок-н-рол, нават калі ён са стажам, ніколі не выклікае адно толькі настальгічных эмоцый. Гэта не сентыментальны плач па мінулай маладосці. Рок-н-рол, калі яго любіш, ён з табою ўсё жыццё. І для музыкантаў, і для слухачоў ён — стыль жыцця.

Мы спявалі разам. На сцэне - лонданскія музыкі, у зале мінская публіка. І калі гучалі старыя хіты "Get Down and With it", "Far Far away", ды іншыя, я бачыў слёзы на вачах як маіх равеснікаў, так і іх дзяцей, якія разумеюць і любяць музыку сваіх бацькоў - рок-н-рол яднае людзей.

**Вячаслаў РАКІЦКІ**


(Інтэрв'ю з гуртам "Slade" чытайце на восьмай старонцы).


# Slade





Фота Генадзя ЖЫНКОВА

СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

ВЕРТЫКАЛЬ

## ВАЙНА Ў РАСІІ: ГРАМАДЗЯНСКАЯ АЛЬБО "АФГАНСКАЯ"?

Здаецца, зусім нядаўна гаварылі і пісалі "Расія", а мелі на ўвазе "Савецкі Саюз" і наадварот. Тады з ведама і па загадзе Масквы лілася кроў у Тбілісі, Баку, Вільні, Прыднястроўі. Сёння, калі чатырнаццаць народаў — хто з меншымі, хто з большымі стратамі — дамагліся незалежнасці (зноў жа , хто ў большай, хто ў меншай ступені), імперская Масква, не зважаючы на пратэсты расійскіх дэмакратаў, ігнаруючы думку немалой часткі расійскага народа, ваюе з уласным насельніцтвам ( зразумела, калі згадзіцца з досыць спрэчным меркаваннем, што Чачня — гэта Расія). Крэмль вядзе поўнамаштабную, накшталт афганскай, вайну супраць законна абранага прэзідэнта Чачні генерала Джахара Дудаева. Каб умяшанне арміі ў палітыку выглядала як міратворчая акцыя, спецыяльна створана "апазіцыя", якая на расійскай брані пад прыкрыццём расійскай авіяцыі збіраецца пераможна ўвайсці ў Грозны. На баку Джахара Дудаева, згодна з паведамленнямі сродкаў масавай інфармацыі, змагаюцца добраахвотнікі з Украіны, Інгушэціі, Абхазіі, афганскія маджахеды. На вайне як на вайне: ёсць забітыя, параненыя і палонныя. Гараць чачэнскія хаты, гараць расійскія танкі.

Вялікія дзяржавы, заклапочаныя, здаецца, невырашальным крызісам у Босніі, пакуль робяць выгляд, што падзеі ў Чачні — унутраная справа Расіі, і астатняга свету гэта не датычыць. Тое ж калісьці гаварылі і пра Карабах — "унутраная справа СССР", і пра Абхазію — "унутраная справа Грузіі"... Але чачэна-расійскае супрацьстаянне набывае такія маштабы, што наўрад ці можна будзе доўга хаваць галаву ў пясок. Не хочацца быць Касандрай, прадракаць расійцам набліжэнне кепскіх часоў, але ўсё гаворыць за тое, што Чачня можа стаць першым звяном ланцуговай рэакцыі распаду Расійскай Федэрацыі, пачаткам трансфармацыі расійскіх губерняў і аўтаномій у суверэнныя краіны. Не атрымалася "савецкага народа", нешта не атрымліваецца і "шматнацыянальнай Расіі".

Беларусы, можа, як ніхто іншы, ведаюць, што такое вайна, што такое агрэсія, што такое навязаны гвалтам, абразлівы для якога заўгодна народа статус "малодшага брата". Таму мы спачуваем ахвярам агрэсіі, разумеем тых, хто не хоча ва ўласнай хаце пад лавай спаць.

Мы — незалежная дзяржава, і толькі гэтая акалічнасць выратоўвае нашых хлопцаў ад удзелу ў чарговай "афганскай" вайне. У дадзеным выпадку — вайне пад расійскім трыкалорам, за маскоўскія інтарэсы. Хай бы памяталі пра гэта тыя, хто ўздымае сёння вэрхал пра неабходнасць "воссоединения Белоруссии с Россией". Гэтае "воссоединение", калі яно, не дай Божа, адбудзецца, будзе абавязкова замацавана крывёю. І кожны павінен шчыра адказаць самому сабе, ці хоча ён, каб гэта была кроў ягонага сына, брата, бацькі? Ці згодны ён такім чынам аплачваць "танную" расійскую нафту?

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

## ЗАПРАШАЕМ НА СВЯТА СМЕХУ!

30 лістапада ў Мінску спектаклем "Беларускія вадэвілі" адкрыўся новы сезон народнага тэатра "Жывая планета", што існуе пры палацы культуры "Юнацтва".

Спектакль, пастаўлены Артурам Забалотнікавым, складаецца з дзвюх частак: першая — па п'есе Міхася Чарота "Мікітаў лапаць", другая — "Прымакі" Янкі Купалы.

Але яшчэ перад пачаткам прадстаўлення ў збянтэжаную публіку, што сабралася ў фае палаца, чакаючы, калі іх прапусцяць у залу, пад гукі гармоніка стракатым струменем уліліся вясёлыя скамарохі, апранутыя у стылізаваныя пад нацыянальныя строі касцюмы. Акцёры тэатра запрашалі гледачоў у скокі, пагуляць у народныя беларускія гульні. Пасля, ужо ў цалкам запоўненай глядзельнай зале распачаўся сапраўдны кірмаш. Акцёры-скамарохі гандлявалі абаранкамі і печывам, няхітрымі гаспадарчымі і сувенірнымі самаробкамі. І спрачаліся за кошт, і штукарылі, і ўсё нібы жартам, і ўсё нібы насамрэч, пакуль не пачуліся ўдары бубна, што запрасілі іх на сцэну — надышоў час прадстаўлення.



Атамасфера балагана, што ўварвалася ў залу разам з акцёрамі-скамарохамі, яшчэ больш узмацнілася, ахопліваючы кожнага гледача, калі раскрылася пашытая з рознакаляровых кавалкаў заслона і на сцэну выехалі калёсы, нагружаныя немудрагелістым тэатральным рэквізітам.

Толькі, што гэта?.. Яўмень, цяжка ступаючы, выйшаў на авансцэну і сумна запеў:

*— Чаму ж мне ня пець...*
*Чаму ж не гудзець...*

Але ўжо Зоська, а потым Дар'я і Грыпіна, і Саўка, і Мікіта, і нарэшце ўсе акцёры-скамарохі ужо вясёлай песняю адкінулі прэч сумныя развагі. Распачалася імклівая, жвавая дзея.

Хочацца адзначыць ігру Аляксандра Самуйліка, Мікіта якога атрымаўся наіўным і пяшчотным, які выклікаў і шкадобу і смех адначасова.

Шчырасцю і спагадай гарэлі вочы Зоські (Ларысы Акуліч), калі яна бачыла перад сабой свайго каханага Саўку (Вадзіма Целеша), усе перажывалі за іх і верылі, што яны "злучацца назаўсёды" і перамогуць усе сваркі і звадкі "з-за курэй", якія гэтак хораша ўсчынілі Дар'я (Света Байрамава) і Грыпіна (Алена Прышчэпава).

Страшным і грозным, і ў той жа час настолькі смешным, атрымаўся ў Сяргея Мінскевіча Яўмень, што другі яго выхад на сцэну суправаджаўся доўгім смехам і авацыямі. Важкі погляд спадылба, замаруджаныя свінцовыя рухі і ўнутранае напружанне кінутага і падманутага мужыка... гаспадара... чалавека! — казалі ўсім, што зараз "вось будзе дык будзе!".

І было: добразычлівая, жартаўлівая ігра блазнаў — Юрыя Байрамава і Сяргея Дзянісава; маленькі цуд — акцёр Віктар Крукоўскі, які выконваў мікраролю, з адным толькі словам "давай", здолеў проста-такі заваяваць залу, і каб не дзея, то сапраўды пасля працяглага смеху і авацый цалкам заслужана пачуў бы —"на біс"; і была добрая ігра ў масавых сцэнах — масоўка, як ні прыкра гучыць гэта для акцёра, тут яна стала крыламі спектакля, на якіх "Беларускія вадэвілі", не азіраючыся, ляцелі да свайго трыумфальнага фіналу.

Пасля, у перапынку зноў былі гульні і чарга па гарбату з блінамі, букаткамі, абаранкамі — бясплатнымі!

Другая частка — "Прымакі", прайшлі на той жа ноце. З той жа скамарошынкай і запалам.

Праставаты Максім (Сяргей Мінскевіч) і грубаваты Трахім (Вадзім Целеш), лагодная Даміцэля (Святлана Байрамава) і жарсткаватая Паланея (Ліка Метэ), чароўная Кацярынка (Алена Зіневіч) і зухаваты Мацейка (Аляксандр Тлусты), "недалёкі" соцкі (Мікалай Казлячкоў) і ўнушаючы павагу і страх не толькі няшчасным "злачынцам", але і ўсёй зале,ураднік (Сяргей Прышчыц) — распавядалі новую больш недарэчную гісторыю-анекдот, як вызначыў яе сам Купала. І ўсе яны былі скамарохамі, якія ігралі на радасць гледачу і, вядома ж, як прынята ў скамарохаў, на радасць сабе.

І можа быць, прыдзірлівы, завельмі прыўзяты крытык знойдзе "закавыкі" ў непрафесійных... народных акцёраў, але іхні ўзровень пацверджваецца перамогамі на фестывалях і гастролямі ў Польшчы і Гішпаніі, — галоўнае — гэта свята, якое яны дораць усім нам — свята смеху.

Сапраўды, мы, беларусы, відаць даўно забыліся на тое, што скамарошынка была неад'емнай часткаю нашага жыцця, бо археолагі яшчэ пры раскопках у Вільні ў пластах XV стагоддзя знайшлі кавалак тынкоўкі, на якой была выява скамароха. Спектакль "Беларускія вадэвілі" народнага тэатра "Жывая планета" нясе ўсім нам перакананне, што скамароства для нас не пераўтварылася ў рэдкі карысны выкапень, а жыве і дае шчасце шчырага смеху людзям.

**Вольга ДАНІЛЕЙКА**

*На здымку:* сцэна са спектакля.

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

## УСЕ СУСТРЭЧЫ — НАПЕРАДЗЕ

Часопіс "Работніца і сялянка" адзначыў сваё 70-годдзе. Вялікі, больш за мільён экземпляраў пастаянны тыраж гэтага ўсё яшчэ адзінага на Беларусі, цалкам беларускамоўнага выдання абумоўлены перш за ўсё праблемамі, якія ён узнімаў — захаванне сям'і і высокамаральных адносін у ёй. Жанчына не толькі як будаўнік камунізму, але і як магутны творчы пачатак Жыцця, як вечная крыніца прыгажосці...На вечарыне, якая адбылася ў Камітэце абароны міру, пра гэта гаварылі міністр культуры і друку А.Бутэвіч і ягоны намеснік І.Карэнда, пісьменнікі І.Шамякін, Р.Баравікова і В.Іпатава, госці і аўтары часопіса. 70 гадоў часопіс адкрываў новыя імёны ў літаратуры і быў сябрам у многіх хатах у самых далёкіх кутках нашай Беларусі.

Мяркуецца, што трохі ідэалагізаваную назву "Работніца і сялянка" хутка заменіць іншая, па імю гераіні дадатка —"Алеся". Але мы, аўтары і чытачы, не перастанем быць вернымі часопісу, які дадае нашаму жыццю аптымізму і святла.

**Наш кар.**

## ЗАЧЫНЯЮЦЦА БІБЛІЯТЭКІ

У лістападзе на базе Пінскай раённай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы быў праведзены семінар бібліятэчных супрацоўнікаў Брэсцкай вобласці. Тэма семінара:"Шляхі фармавання і выкарыстоўвання бібліятэчных фондаў у сучасных умовах". Дырэктары ЦБС і загадчыкі аддзелаў камплектавання наведалі літаратурны музей А.Блока ў Лапаціне, бібліятэку-музей у Жабчыцах, бібліятэку ў Аснежыцах. У рабоце семінара ўзялі ўдзел рэдактары выдавецтваў "Мастацкая літаратура" і "Юнацтва", пісьменнікі М.Кусянкоў, Л.Дранько-Майсюк, У.Марук, супрацоўнікі Нацыянальнай бібліятэкі.

Пры абмеркаванні праблем звярталася ўвага на цяжкі стан камплектавання фондаў бібліятэк. Няма галіновай літаратуры, якая амаль не выдаецца ў краіне, але неабходная для студэнтаў і спецыялістаў, навукоўцаў. Абмежаваны перыядычныя выданні. Зачыняюцца бібліятэкі, толькі сёлета ліквідавана ў вобласці 67 бібліятэк. Камп'ютэрызацыя бібліятэчнай справы не праводзіцца. Прэстыж бібліятэкі застаецца нізкім. У наступным годзе ўводзіцца новая інструкцыя па ўліку і захаванні фондаў. Былі выказаны меркаванні, што кіраўніцтва вобласці не цікавіцца праблемамі бібліятэк, аддаючы перавагу масавым шоў.

**Уладзімір СУХАПАР, бібліёграф Брэсцкай абласной бібліятэкі**



## ДЗЕЙСНАЯ МІЛАСЭРНАСЦЬ

Шчаслівыя хвіліны падаравала дзецям, што пакутуюць на анкалагічныя захворванні, свята "Усмешка", якое адбылося ў мінскім Палацы культуры чыгуначнікаў. Перад дзецьмі выступіў танцавальны ансамбль "Гарэзлівыя агеньчыкі", артысты цыркавой студыі Палаца культуры чыгуначнікаў і многія іншыя дзіцячыя творчыя калектывы. Наведнікаў забаўлялі "Маскі" з ТЮГа, былі арганізаваны гульні, і, вядома, не абышлося без прызоў.Наладзіла свята рэспубліканскае таварыства "Дзеці ў бядзе".

*На здымку:* у зале падчас канцэрта.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛІНФАРМ**

## ПАВОДЛЕ ВАСІЛЯ БЫКАВА

26 лістапада ў Магілёўскім гарадскім Доме культуры адбылася прэм'ера спектакля "На чорных лядах" па аднайменнаму апавяданню Васіля Быкава. Гэта была першая ў нашай дзяржаве спроба паставіць на сцэне твор вядомага пісьменніка, прысвечаны трагічнаму лёсу слуцкіх паўстанцаў.

Пастаноўку здзейснілі акцёры-аматары з тэатра-студыі "Машэка" (ГДК) пад кіраўніцтвам рэжысёра, заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь Валянціна Ермаловіча.

Перад шматлікімі гледачамі натхнёна, трагічна перадалі вобразы барацьбітоў за незалежнасць Беларусі і апошнія хвіліны іх жыцця: дэкан філфака Яраслаў Клімуць у ролі камандзіра, Таццяна Крукоўская (Валодзя), Ігар Пушкін (Аўстрыяка), студэнты Алесь Чугай (Мяцельскі), Юры Дзегцяроў (Казак), Лявон Тарасенка (Забела), Валеры Тарасенка (Зубко), Алесь Змушка (Кажухар). Веліч постацяў падкрэслілі спевы, выкананыя дыпламантам нацыянальнага фестывалю аўтарскай песні Сержуком Кулягіным.

У час абмеркавання ўхвалілі пастаноўку, ігру акцёраў (асабліва Т.Крукоўскай). Неадназначныя адзнакі атрымала само апавяданне (ідэя самагубства). Аднак большасць пагадзілася з думкай, што спектакль добры і дасягнуў сваёй мэты ўшанаваць угодкі слуцкага збройнага чыну.

**Ігар ПУШКІН, дырэктар музея гісторыі Магілёва**

## НАДДЗВІНСКІ "МАЛАДЗІК"!



У Віцебскім мікраараёне "Поўдзень-7" з'явіўся першы ў нашай краіне дзіцяча-юнацкі цэнтр "Маладзік". У яго памяшканні — дзве выяўленчыя студыі, майстэрні мастацкага вобраза і ювелірная, а таксама выставачныя залы. Навучанне ў цэнтры бясплатнае.

Свае працы тут могуць выстаўляць вучні гарадскіх школ з мастацкім напрамкам, студэнты педагагічнага і тэхналагічнага інстытутаў і вучэльняў абласнога цэнтра, а таксама выкладчыкі.

Першымі ў залах цэнтра дэманструюць сваю творчасць вучні і настаўнікі СШ № 25.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ**

ЕСЦЬ ПЫТАННЕ!

# НЯСВІЖСКІЯ СВЯТЫНІ

Яшчэ некалькі гадоў таму помнікі Нясвіжа вынішчаліся, гінулі з-за абыякавасці, а таксама злачынных палітычных амбіцый узроўню: "Гэта належала крывапіўцам-эксплуататарам, ці трэба яго шанаваць і зберагаць?" Так выказвалася некалькі пакаленняў партыйцаў. Адзін з "нашых" неяк нават паспачуваў: "Што вы так хвалюецеся наконт Альбы? Ды там жа гулялі Радзівілы!" Альбо: "Ну што вы носіцеся з гэтымі помнікамі? Якія гэта помнікі? Яны не маюць аніякай каштоўнасці".

Дзякуючы такім адносінам "у-ладу маючых" у Нясвіжы пасля другой сусветнай вайны загінула помнікаў больш, чым за чатырыста гадоў. Каля сарака цудоўных сведкаў даўніны сталі ахвярай варвараў у асобах райкамаўцаў, прадстаўнікоў Саветаў і КДБ, якія валадарылі ў гістарычным горадзе. Вось адзін з прыкладаў гэтай сумнай эпапеі. На Новым месцы яшчэ ў 1625 годзе ўдзячныя несвіжане паставілі маленькую цудоўную уніяцкую капліцу на месцы пахавання ахвяр страшэннай эпідэміі, якая забрала сотні жыццяў гараджан. Помнік прастаяў некалькі стагоддзяў, перанёс шматлікія ліхалецці, войны, пажары, набегі рабаўнікоў. Перажыў гэты будынак і апошнюю страшэнную вайну. Але камуністычным уладам удалося тое, што было непадуладна часу. З райкама безупынна ішлі загады разбурыць помнік. Праўда, на яго абарону станавіліся кабеты з бліжэйшых хат і, узяўшыся за рукі, сваімі целамі закрывалі каплічку святога Вінцэнта. Аднойчы жанчын арыштавалі, пасадзілі ў міліцыю, а да помніка падцягнулі магутную тэхніку і зруйнавалі яго з зямлёй. Пра гэта з абурэннем расказвае старая кабета, пенсіянерка Навакоўская. А вінаватыя праз некалькі гадоў, выйшаўшы на пенсію з райкама партыі, раптам узначалілі таварыства аховы помнікаў. Ці ж не здзек гэта, асабліва ганебны і змрочны? Маўляў, народ усё сцерпіць!

Загінулі будынкі бернардзінскага кляштара і касцёла, дзе пасля вайны месцілася праваслаўная царква, а на гэтым месцы пабудавалі клуб вайсковай часткі. Дамініканскі сабор, дзе потым адкрылася настаўніцкая семінарыя і дзе вучыўся Якуб Колас, разбурылі ў шасцідзесятыя гады і пабудавалі сучасны кінатэатр. А лёс прыгажуні Альбы, непаўторнага ў свеце парку XVI стагоддзя, якому цяжка было знайсці аналаг у Еўропе? Што з цудам-паркам зрабілі, размясціўшы там выпраменьваючую гама-ўстаноўку? Колькі магло б знайсціся магчымасцяў у Альбе для еўрапейскага турыстычнага цэнтра, колькі б мы мелі прыбытку ў валюце! А лёс нясвіжскага замкавага комплексу, дзе паркавая частка патрабавала лячэння, а яго каштоўнасці проста знішчылі, ператварыўшы пейзажны парк у звычайны прымітыўны бульвар! Нават тыя дрэвы, якіх не вынішчылі рукі вандалаў-непрафесіяналаў, цяпер засыхаюць самі, ад чаго захлынаецца сэрца. Альбо невялічкі зграбны Паляўнічы дамок, які стаяў на Лебядзіным лузе. Камусьці прыйшло ў галаву, што яго трэба перанесці з цудоўнай гістарычнай мясціны на адну з вуліц Нясвіжа. Вырашана — зроблена. Пры пераносе шмат частак раскралі, ён апынуўся на новым месцы без вокнаў і дзвярэй. Гуляючы, дзеці там разводзілі вогнішчы і, нарэшце, спалілі. Моцныя сцены ўсё ж трымаліся, чорныя, абвугленыя, якія столькі гадоў жылі і яшчэ хацелі жыць, радаваць вока і расказваць пра мінулае.

Апошнім часам быццам бы ўзяліся мы, беларусы, за розум і пачалі гаварыць, пісаць пра нашу багатую спадчыну, пра яе зберажэнне. Нават манкурты, якія знішчылі яе, убачылі, што цяпер выгадна памяняць хаця б на словах адносіны да помнікаў, і яны нажываюць сабе палітычны капітал, робячы імідж ахоўнікаў, зберагацеляў нашай багатай культуры. Паслугачы злачыннай сістэмы здымаюць пра сябе тэлефільмы, захопліваюць кіруючыя ролі ў розных фондах. Асабліва ім падабаецца за народныя сродкі ездзіць за мяжу, прывозіць падарункі, узбагачацца рознымі шляхамі і сродкамі. Нават сяброўства з нямецкімі гарадамі-пабрацімамі "прыватызавалі" сваімі цёпленькімі кампаніямі.

Цікавасць да Нясвіжа значна ўзрасла ў апошнія дзесяць гадоў. На розных узроўнях, ад самага вышэйшага і да мясцовых улад, прымаюцца рашэнні, ствараюцца шматлікія праекты, нішчацца народныя грошы, а справы сапраўднай няма. Знаходзяцца інвестары, спонсары, і свае, і замежныя, але канчатковай дамоўленасці з-за нестабільнасці дзяржавы не прадбачыцца. У выніку Беларусь страчвае вялікія валютныя прыбыткі, якія б магла мець ад замежнага турызму. Мы ўжо да гэтага прызвычаіліся.

Але ёсць яшчэ адна праблема ў старажытным горадзе. На гістарычныя святыні звярнулі ўвагу аматары-шукальнікі ці то скарбу, ці яшчэ няведама чаго. На працягу дзесяці гадоў у Нясвіжы працуюць два выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў Мінска, якія не маюць адпаведнай адукацыі, каб весці раскопкі. Некалькі гадоў працавалі каля Міхальскай горкі, у кляштары бенедыкцінак, у замку і гэтак далей. Першы этап іх эпапеі скончыўся крымінальнай справай. Было гэта ў 1989 годзе. Працяглы час патаемна, без патрэбных дакументаў, працавалі ў крыпце кляштара бенедыкцінак. У той час навучэнкі педвучылішча чулі ноччу нейкія размовы з падзямелляў, пахі, нават, як ім здавалася, спевы. Беларуская журналістка спадарыня Ламсадзе правяла сваё даследаванне, і ў выніку з'явіўся напалову містычны артыкул у "Советской Белоруссии", які выклікаў вялікую цікавасць у жыхароў Нясвіжа і шматлікіх турыстаў. Усе апісаныя містычныя з'явы тлумачыліся з цяперашняга пункту гледжання проста: у падзямелі працавалі па начах нашы героі і сапраўды там знайшлі скарб, але ўчыніць паводле закону не захацелі. Прычакалі кастрычніцкіх свят, калі педвучылішча пусцее, і ноччу зрабілі спробу вывезці каштоўнасці. Пад раніцу іх затрымала міліцыя, але справу чамусьці прыпынілі. Невядома, ці ўсё знойдзенае вярнулася Нясвіжу, бо пытанняў было шмат, а адказу несвіжане не атрымалі ні на адно. Так хуценька прыпыненая крымінальная справа дала магчымасць шукальнікам працягваць свой занятак у Нясвіжы, аж пакуль у 1992 годзе не загінулі на раскопках трое падлеткаў. Для галоўных вінаватых справа зноў скончылася шчасліва. Пачаўся трэці этап раскопак аматараў. У гэтым годзе, атрымаўшы сродкі ў спонсара П.І.Кляева і цяпер ужо сапраўдныя дакументы ў былым Савеце Міністраў, яны працягвалі інтэнсіўныя пошукі галоўным чынам у сутарэннях нясвіжскага замка. Свой актыўны ўдзел у гэтай справе не адмаўляе і спадар Бубноўскі. Пачаліся раскопкі яшчэ вясною. Харчаваліся шукальнікі ў санаторыі "Нясвіж", на яго тэрыторыі былі пастаўлены прыгожыя новыя вагончыкі для жылля. Згодна з загадам Савета Міністраў, круглыя суткі павінен быў весці нагляд нясвіжскі аддзел унутраных спраў. Але ў сапраўднасці было не так. Нават у суботнія дні, калі міліцыя адпачывала, поўным ходам вяліся работы і зноў жа з вялікімі парушэннямі правілаў бяспекі.

Усім, хто не абыякавы да сваёй гістарычнай спадчыны, вельмі балюча, што ў святынях маюць права шукаць немаведама чаго непрафесіяналы, якія не выступілі ні з адным дакладам па выніках сваіх пошукаў, не надрукавалі ані радочка, хаця працуюць каля дзесяці гадоў. Ходзяць толькі чуткі пра шматлікія багацці, знойдзеныя імі, пра збаны з золатам.

**К. ШЫШЫГІНА,**
**краязнаўца, кіраўнік творчага аб'яднання "Нясвіж"**

# ЗБЕРАГЧЫ НАШ СКАРБ



Велічныя руіны Наваградскага замка — алегарычны сімвал нашай гісторыі. Яны нясуць у сабе інфармацыю шматлікіх падзей і пакаленняў, назапашаныя на працягу амаль дзесяці стагоддзяў. Абрысы замка ўжываюцца і ўспрымаюцца як сімвал усёй Беларусі, таму што гісторыя наваградскага замка непадзельна звязана з важнейшымі падзеямі нашай агульнай гісторыі.

Як сцвярджае першы Сафійскі летапіс пад 1044 г., "ходи Ярослав на Литву, а на весну заложи Новогород", як аплот валодання Кіева гэтымі землямі. Ф.Гурэвіч, якая кіравала археалагічнымі даследаваннямі ў Наваградку ў 1956 — 1974 гг., удакладняе момант яго ўзнікнення, як мяжу X — XI стст., што супадае з паходам Уладзіміра Святаслававіча Кіеўскага на яцвягаў. Так ці інакш, але пачалі будаўніцтва наваградскага замка кіеўскія князі, а разбудоўваўся і ўмацоўваўся ён дзякуючы вялікім князям літоўскім пачынаючы ад князя Міндоўга, які летам 1252 "коронован бысть на королевство Литовское в Новогородку". Наваградак у той час дасягнуў значнага эканамічнага і культурнага развіцця і быў рэзідэнцыяй князя Міндоўга і яго пераемніка князя Войшалка.

Ужо ў сярэдзіне XI ст. наваградскі дзядзінец быў абнесены земляным валам з драўлянымі канструкцыямі. У канцы XII ст. земляны вал пераносіцца на край пляцоўкі, што сведчыць аб росце і развіцці замка. Паўночную частку дзядзінца займалі клеці і свірны, побач з гаспадарчымі пабудовамі, падобна, працавалі рамеснікі-ювеліры. У паўднёвай частцы знаходзіліся пабудовы залежных ад князя гараджан, чэлядзі. Жыллё князя магло знаходзіцца каля вады, дзе пазней, у XIV ст., стаяла грамадзянская мураваная пабудова (палаты феадала). Непадалёк ад цэнтра размяшчалася царква.

У XII — XIII стст. наваградскі дзядзінец быў моцнай крэпасцю. Вышыня вала раўнялася 6 метрам, шырыня была больш за 21 метр! На замку была пабудавана вежа, рэшткі якой сёння схаваны ў зямлі на 7,5 м. Яна была адзіным мураваным збудаваннем тагачаснага замка. Як мяркуе М.Ткачоў, будаўнікамі маглі быць як валынскія ці нямецкія, так і мясцовыя майстры. З летапісных крыніц вядома, што ў 1274 г. аб'яднанаму валынскаму і татарскаму войску не ўдалося захапіць замак, у абароне якога вялікая роля належала мураванай вежы. Не ўдалося захапіць яго і крыжацкім атрадам у 1314, 1391 і 1394 гг. пад кіраўніцтвам Вялікага магістра Генрыка фон Плоцке, Конрада Валенрода і Ульрыха фон Юнгінгена. Але замак быў моцна пашкоджаны.

У XIV ст. пачынаецца новы этап у гісторыі Навагрудка, абумоўлены перш за ўсё стварэннем на старажытным дзядзінцы магутнага мураванага замка.

Яшчэ пасля сумеснага галіцка-валынскага і татарскага паходу на Наваградак у 1274 г. менавіта на дзядзінец пераносіцца асноўная жыццядзейнасць горада, і тут вядзецца інтэнсіўнае будаўніцтва і ўзводзяцца царква, палаты, уласна замак, якія займаюць асаблівае месца ў гісторыі архітэктуры Беларусі.

Найбольш раннім манументальным помнікам наваградскага дзядзінца з'яўляецца царква. Сістэма кладкі — вендская і гатычная, а таксама фармат цэглы, як адзначае М.Малеўская, набліжаюць яе да замкавай вежы Шчытоўкі і замкаў у Лідзе, Крэве, Медніках. Яна з'яўляецца адзіным помнікам культавай архітэктуры першай паловы XIV ст. на тэрыторыі Беларусі. Адзінай на Беларусі манументальнай грамадзянскай пабудовай гэтага перыяду з'яўляюцца "палаты феадала", адкрытыя М.Малеўскай непадалёк ад царквы. Гэта была двухпавярховая пабудова свецкага характару, прызначаная для ўрачыстых княжацкіх прыёмаў, якая не мае прамых аналагаў ні ў Вялікім княстве Літоўскім, ні ў Заходняй Еўропе. Па сваім прызначэнні яна нагадвае палацы і церамы на дзядзінцах старажытных беларускіх гарадоў, па канструкцыі — падобная да гарадскіх дамоў Рыгі канца XIII — пачатку XIV ст. (Аднак рыжскія дамы не з'яўляліся княжацкімі пабудовамі.)

У канцы XIV ст. князь Вітаўт пачынае адбудоўваць наваградскі замак. На фундаменце першай мураванай вежы ў сярэдзіне паўночнай сцяны ўзводзіцца новая, вядомая пад назвай Шчытоўкі, альбо Цэнтральнай, з праезджай брамай. Вежа мела пяць паверхаў і дасягала 25 м у вышыню.

Справа паўстала трохпавярховая Касцельная вежа вышынёй 12 метраў. Трэцяя замкавая вежа — Малая брама была таксама трохпавярховай і стаяла на паўднёвым баку дзядзінца. Ад Малой брамы на захад ішло самае моцнае прасла сцяны даўжынёй 20 м, якое злучала яе з Пасадскай вежай.

Другі этап будаўніцтва звязаны з пабудовай ля падэшвы Замкавай гары, дзе білі моцныя крыніцы, Калодзежнай вежы. Такім чынам, у пачатку XV ст. наваградскі замак меў пяць мураваных вежаў. Гэтым ён, безумоўна, абавязаны вялікаму князю Вітаўту, які часта і падоўгу жыў у Наваградку.

У 1415 г. па ініцыятыве Вітаўта ў Наваградку адбыўся сабор праваслаўных епіскапаў з мэтай стварыць незалежную ад Масквы праваслаўную мітраполію Вялікага княства Літоўскага, на якім Грыгорый Цамблак быў абраны мітрапалітам.

На замку ў Вітаўта гасціў кароль Польшчы Уладзіслаў Ягайла, які ў 1422 г. браў шлюб з Соф'яй Гальшанскай у Наваградскім фарным касцёле.

Тут 80-гадовы, але яшчэ поўны рыцарскага духу Вітаўт, вяртаючыся з выправы на Пскоў і Ноўгарад, раздаваў дары сваім воінам, а ў 1428 г. запісаў Наваградак у пажыццёвае ўладанне жонцы Уляне.

У 1444 г. вялікі князь літоўскі Казімір Ягелончык залічыў Наваградак да галоўных гарадоў Вялікага княства Літоўскага і даў яму шэраг муніцыпальных свабод. Тут адбываліся сеймікі, засядалі замкавы і земскі суды, а ў 1448 г. праходзіў сейм Вялікага княства Літоўскага.

У пачатку XVI ст. больш частымі сталі напады крымскіх татар. У 1503, 1505 і 1506 гг. наваградскі замак вытрымаў аблогі татарскіх войскаў на чале з султанам Біці-Гірэем.

На гэты перыяд прыпадае трэці этап умацавання наваградскага замка. У паўночна-заходнім куце паўстае самая высокая вежа — Дазорца (вышыня 30 м). У пачатку XVI ст. была пабудавана яшчэ адна вежа — Меская. Яна знаходзілася ля паўднёва-ўсходняга схілу і абараняла з боку "места" подступы да ўваходу ў замак. Так утварылася дадатковае ніжняе ўмацаванне — "форбург", якое значна павышала фартыфікацыйныя якасці наваградскага замка. У XVI ст. ён меў ужо сем вежаў і быў адным з наймагутнейшых на Беларусі.

Унікальны Наваградак і па археалагічных знаходках. Па колькасці амфар ён займае адно з першых месц сярод беларускіх гарадоў XII — XIII стст. Тут знойдзена вялікая колькасць фрагментаў візантыйскага, бліжнеўсходняга, старажытнарускага шклянога посуду з люстраным роспісам, а таксама роспісам золатам і белай эмаллю. Сярод знаходак — шкляны, упрыгожаны разьбой келіх, вядомы пад назвай кубка Ядвігі, унікальны літы абразок з чырвона-карычневага шкла, які мае два вядомыя ў свеце аналагі. Адзін знойдзены ў Александрыі і захоўваецца ў Оксфардскім музеі. Другі, месца знаходкі якога невядома, экспануецца ў Музеі хрысціянскіх старажытнасцей Ватыкана. Як заўважае Ф.Гурэвіч, у археалогіі пакуль таксама невядомы паралелі багатаму кварталу вакольнага горада Наваградка, унікальнай асаблівасцю якога з'яўляецца зашклёнасць вокнаў і фрэскавы роспіс сцен у жылых пабудовах XII ст.

Але войны і час, ды яшчэ абыякавасць людзей да лёсу нацыянальных каштоўнасцей, адсутнасць імкнення захаваць іх для сябе і нашчадкаў прывялі да таго, што зараз замак знаходзіцца пад пагрозай знішчэння. На пачатку нашага стагоддзя, 14 лістапада 1906 г., абвалілася заходняя сцяна Касцельнай вежы. У 1925 —1928 гг. была закансервавана Шчытоўка, паўднёвая сцяна якой абвалілася ў час першай сусветнай вайны, а таксама разабрана і перамуравана сцяна Касцельнай вежы.

Зараз у чарговы раз пад пагрозай абвалу знаходзіцца адзіная надземная частка сцяны Касцельнай вежы. Ці перазімуе яна яшчэ адну зіму? А калі не? Як будуць адчуваць сябе тыя, хто мог і павінен быў яе ўратаваць?

Наваградскі замак чакае і спадзяецца...

**Тамара ВЯРШЫЦКАЯ,**
**дырэктар Наваградскага краязнаўчага музея**

*У артыкуле выкарыстаны матэрыялы Беларускага рэстаўрацыйна-праектнага інстытута*

КАМЕРТОН

# АГОНЬ ЧАЛАВЕЧЫХ СЭРЦАЎ

"Музыка павінна высякаць агонь з сэрцаў чалавечых", — казаў Людвіг ван Бетховен. У наш час сталася асабліва заўважным, што музыка злучае сэрцы не толькі асобных людзей, але і цэлых народаў, умацоўвае сувязі паміж культурамі розных краін.

Згадаем, што восенню ў Любліне (Польшча) прайшлі Дні культуры Беларусі, а потым у Мінску — Дні культуры горада Бона, які вядомы ў свеце не толькі помнікамі архітэктуры са знакамітым раманскім саборам XIII ст., але перадусім — як радзіма Людвіга ван Бетховена. І таму не выпадкова ў межах культурнай праграмы ў Белдзяржфілармоніі адбыўся канцэрт, у які ўвайшлі геніяльныя творы кампазітара — уверцюра № 3 да оперы "Леанора" і "Гераічная" сімфонія. Разам з імі прагучала ўпершыню Другая сімфонія маладога беларускага кампазітара С.Бельцюкова ў выкананні Дзяржаўнага Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Пятра Вандзілоўскага.

Аркестр у гэты вечар граў з асаблівым натхненнем, і кожнага слухача нібыта праціналі іскры агню бетховенскай героікі, усё навокал злучалася ў адзінае полымя. Творы кампазітара, увасобіўшыя дух Вялікай Французскай рэвалюцыі, гучалі ў гэты вечар менавіта па-бетховенску, дзякуючы вялікай павазе да задумы аўтара і прафесійнаму падыходу да яе трактоўкі з боку Пятра Вандзілоўскага, што ўзнаўляў за дырыжорскім пультам усе перыпетыі драмы Бетховена.

"Паміж двух агнёў" прамянела ўласным святлом Другая сімфонія Сяргея Бельцюкова — маладога кампазітара, вучня прафесараў Беларускай акадэміі музыкі Шаршэўскага і Глебава. С.Бельцюкоў — ужо аўтар многіх твораў: ён напісаў дзве сімфоніі, канцэрты для габоя з камерным аркестрам і для фартэпіяна са струннымі і ўдарнымі, кантаты "Вандроўнікі", "Спадчына", "Усяночнае дбанне", рамансы на вершы М.Багдановіча, Б.Ахмадулінай, кітайскага паэта Бадзіві, а таксама п'есы для фартэпіяна.

Задума Другой сімфоніі "са званамі" для струнных і ўдарных, невялікага па маштабах адначасткавага твора, з'явілася ў кампазітара па заканчэнні "Усяночнага дбання". На думку самога аўтара, абедзве ягоныя сімфоніі маюць не больш агульнага, чым неба і зямля. Першая сімфонія ўражвае сваімі маштабамі, у склад аркестра ўведзены хор, а Другая — камернага плана: яна выяўляе розныя грані аднаго настрою. Нібыта пра яе сказаў аднойчы Леў Талстой: "Музыка — гэта сцэнаграфія пачуццяў". Гэтая сімфонія вельмі выразная, празрыстая па гучанні. Аўтар па-майстэрску валодае магчымасцямі аркестра. У павеўнай музыцы кожная паўза гарыць чароўным святлом, якое адлюстроўвае агні, што нібыта загараюцца ў паветры разам з кожным ударам званоў. У ёй няма экстравагантных эксперыментаў, яе наканаванне — быць люстэркам душы кампазітара.

Прыемна быць сведкай прэм'еры музыкі беларускага кампазітара: рэдка патрапіш на яе падчас вялікага канцэрта. Дык няхай жа музыка выкрасае агонь з чалавечых сэрцаў, да якой бы эпохі яна ні належала! Няхай у гэтым агні гартуецца лучнасць паміж людзьмі, як жадаў таго Бетховен.

**Алена СКРЫГАНАВА**

# ПАДАРОЖЖА ВА ЎЛАСНУЮ ДУШУ

У канцэртнай зале Беларускай акадэміі музыкі ў кастрычніку адбыўся сольны канцэрт асістэнт-стажора Веранікі Сахаравай. Як піяністка яна яшчэ не вельмі вядомая шырокай аўдыторыі. Вераніка з юначых гадоў займалася музыкай, захаплялася балетам. Кансерваторыю па класе фартэпіяна яна скончыла ў Адэсе, дзе вучылася пад кіраўніцтвам А.Гінзбург, прадстаўніцы вядомай школы Г.Нейгаўза. Яшчэ ў 1986 годзе Вераніка ўдзельнічала ў рэспубліканскім конкурсе, прысвечаным гэтаму славутаму педагогу. Нядаўна адбыўся яе сольны канцэрт у Маладзечне.

Праграма канцэрта маладой піяністкі ў Акадэміі музыкі складалася выключна з твораў кампазітараў-рамантыкаў: Шуберта, Шумана, Брамса, Шапэна, Ліста.

"Густ да рамантыкі сустракаецца рэдка, яшчэ радзей — рамантычны талент, а таму толькі нямногія цяпер у стане валодаць той лірай, што вядзе слухачоў да чароўнага царства бязмежнасці..." — так сказаў калісьці Гофман. У пэўным сэнсе, кожны выканаўца іграе сябе самога. Немагчыма перадаць якія-кольвек пачуцці, калі не перажываеш іх сам. Толькі глыбока рамантычная душа можа зразумець і перадаць усю глыбіню рамантычнай музыкі. У гэтым спецыфічным стылі пачуцці і эмоцыі пераважаюць над чалавечай рацыяй і разважлівасцю. Гэтая музыка заўсёды будзе таямнічым цудам. Каб разумець яе, спецыяльная адукацыя не патрэбна, дастаткова проста мець музычную душу.

Вераніка Сахарава дала цікавую трактоўку музыкі рамантыкаў, раскрыла непазнавальны свет гэтых кампазітараў праз уласны артыстычны тэмперамент. Найбольш сугучнымі яе імпульсіўнаму характару нам падаліся творы Ф.Ліста, але моцны эмацыйны пафас адчуваўся ў выкананні ўсёй праграмы. Часам прыхаваная ўнутраная экспрэсія прарывалася вонкі, і тады музыка ператваралася ў нястрымную эмацыйна-гукавую плынь. Пры гэтым, аднак, велізарная моц рамантычнага памкнення заглушала іншыя эмоцыі, і выканаўца не паўсюдна здолела адцяніць усю разнастайнасць інтанацый гэтай музыкі. Тым не менш глыбокае пачуццё, якое піяністка ўносіла ў выкананне, сагрэла гук. Адзначым таксама, што манеру ігры піяністкі вылучаюць элегантнасць, упэўненасць, гучнае фортэ. Раяль гучыць шчыльна, важка, масіўна. Сродкамі фартэпіяннай фактуры Вераніка дасягае шматколернага, аркестральнага гучання.

Паэтычна прагучала інтэрмеца Брамса a-moll, узрушыў экспрэсіяй накцюрн Ф.Шапэна № 13. Драматычная трактоўка, шляхетнасць гуку — усё гэта надавала выкананню сапраўдную мастацкасць. У аўтарскай інтэрпрэтацыі была паказана віртуозная п'еса Ф.Ліста "Кампанела". У выкананні адчувалася захапленне дэталямі раскошнай фактуры, быў створаны каларыстычны эфект стакатнага гучання.

Цудоўнае ўражанне пакінуў цыкл "Сімфанічныя эцюды" Р.Шумана. Кампазітар стварыў у іх прастору для рамантычнай фантазіі выканаўцы, і Вераніка з поспехам скарыстала яе, каб перадаць нечаканыя змяшчэнні кантрастаў і праз іх — пераўвасабленне тэмы. Р.Шуман — гэта "кампазітар сэрца", ягоныя творы — гэта імгненная фіксацыя ўсяго, што прымушае вібраваць найтанчэйшую мембрану мастакоўскай душы. У патаемныя глыбіні музыкі скіравала сваю інтэрпрэтацыю і маладая піяністка.

Вераніка Сахарава толькі пачынае раскрывацца ў сферы камернага выканальніцтва, і мы можам чакаць ад яе вялікіх дасягненняў на гэтым шляху. На жаль, канцэртная зала падчас вечарыны была паўпустой, але ў душах слухачоў, як і заўжды пасля спаткання з музыкай, пабольшала чагосьці вельмі важнага. У змроку сучаснага жыцця гэтыя светлыя ўражанні ўказваюць нам ідэал прыгажосці, дапамагаюць спасцігнуць глыбіні ўласнай душы.

**Ірына УЮГІНАВА**

***Гэтая восень была багатая на музычныя падзеі. Пра некаторыя з іх мы паведамлялі на старонках газеты. І зараз мы даем слова маладым музыказнаўцам — студэнтам Беларускай акадэміі музыкі, для якіх гэтыя публікацыі — своеасаблівы дэбют і магчымасць звярнуцца да шырокай аўдыторыі.***



Фота Генадзя ЖЫНКОВА

# НА ЖАЛЬ, ЗАЛА БЫЛА НАПАЛОВУ ПУСТАЯ...

У кастрычніку ў канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі адбылася творчая вечарына народнага артыста Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Алоўнікава, аднаго з найстарэйшых кампазітараў. Ягонаму пяру прыналежыць вялікае мноства твораў. Можна, напэўна, казаць, што гэта кампазітар вакальнага дару, хаця ягонае кола прафесійных інтарэсаў значна шырэйшае. Пазнавальныя рысы ягонай музыкі — прастата, дэмакратычнасць, даступнасць. Кожны з нас можа ўзгадаць мелодыю песні "Радзіма мая дарагая", што сталася пазыўнымі Беларускага радыё: яе аўтар — Уладзімір Алоўнікаў. У гонар 75-гадовага юбілею кампазітара і была наладжана гэтая цудоўная вечарына.

У канцэрце бралі ўдзел Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь, якім дырыжыраваў народны артыст, прафесар Міхаіл Казінец (салісты — народныя артысты Любоў Каспорская і Віктар Чарнабаеў, заслужаны артыст рэспублікі Віктар Скарабагатаў), а таксама Дзяржаўная харавая капэла пад кіраўніцтвам Людмілы Яфімавай. Выконваліся сімфанічны эскіз "Куранты Брэсцкай крэпасці", сімфанічныя паэмы "Нарач" і "Партызанская быль", сюіта "Песні міру" (I і III часткі). Асабліва варта адзначыць, што ўпершыню была выканана цалкам араторыя "Партызанскія песні". У сваім віншавальным слове Міхаіл Казінец падкрэсліў, што Уладзімір Алоўнікаў найбольш вядомы публіцы як цудоўны кампазітар-песеннік. І вельмі важна, што гэты канцэрт адкрыў слухачам іншую глыбіню ягонай творчасці — сферу сімфанічнай музыкі. На думку дырыжора, араторыя "Партызанскія песні" — свайго кшталту энцыклапедыя жыцця партызанаў, калейдаскоп найбольш яркіх уражанняў партызанскіх паэтаў. Гэты твор Алоўнікава прасякнуты глыбокай чалавечнасцю па ўсіх сваіх шматлікіх гранях. Грандыёзнае ўражанне пакідае "Калыханка", лёгка праносяцца насычаныя гумарам "Партызанскія прыпеўкі", узрушае трагізмам нумар "Дзе ты, знаёмая вёска?", у якім апавядаецца пра вёску Шавулічы, якую спасцігла доля Хатыні. Нарэшце, усхвалявала выкананне "Партызанскага балю", атмасферу якога з вялікім майстэрствам перадала салістка капэлы. Ну і, вядома, шмат хто са слухачоў падхапіў знакамітую "Лясную песню", якой пачыналася і скончылася араторыя.

На жаль, зала была запоўненая толькі напалову, але на цёплую атмасферу вечарыны гэта ніяк не ўплывала. На спатканне з музыкай У.Алоўнікава прыйшлі сябры і калегі, а таксама студэнты і вучні, для якіх Уладзімір Уладзіміравіч — велізарны аўтарытэт. Нарэшце, былі людзі ўжо немаладых гадоў, што вытрывалі на сабе ўсе цяжкасці вайны і таталітарызму. Для іх музыка кампазітара сталася часткай уласнага жыцця.

Уладзімір Алоўнікаў — асоба сапраўды незвычайная: таленавіты кампазітар, дасведчаны педагог і проста чалавек з невычэрпнай любоўю да жыцця, які, нягледзячы на ўзрост, працягвае тварыць і па сёння. "Музыку, — пісаў ён у адным са сваіх артыкулаў, — слушна называюць мовай душы". Я веру, на гэтай зразумелай усім мове кожны чалавек, які быў на канцэрце, пачуў штосьці важнае для сябе.

**Аксана МАЗЫРКА**

# СПЕВАКІ-ЧАРАЎНІКІ

"Што такое голас? Сам па сабе — паветра, якое хістае галасавыя звязкі. Розум і сэрца надаюць яму прыгажосць, ператвараюць яго ў мастацтва, якое ўвасабляе безліч чалавечых пачуццяў. Гэта сапраўды — дар Боскі, які, як усялякі талент, ускладае на артыста вялікую адказнасць. Голас, калі ім авалодаць, — велізарная сіла", — так распачынае сваю кнігу "Свет італьянскай оперы" вядомы спявак Ціта Гобі.

Безумоўна, адразу стацца "зоркай" амаль немагчыма, бо музычнае "чараўніцтва" — майстэрства тонкае і складанае, шлях да яго звычайна доўгі і няпросты. Таму з'яўленне новых імёнаў — падзея заўжды вельмі хвалюючая. Засведчыў гэта і III Нацыянальны конкурс спевакоў Рэспублікі Беларусь імя Л.Александроўскай, выдатнай беларускай спявачкі, народнай артысткі СССР.

У зале Беларускай акадэміі музыкі дэманстравалі свае здольнасці маладыя выканаўцы з Беларусі і краін бліжняга замежжа. Яны спявалі творы самых розных часоў, краін і кампазітараў. Асабліва прыемна было тое, што прагучала шмат беларускай музыкі. А за лепшае выкананне народнай песні Міхаіл Цішкевіч нават атрымаў спецыяльны дыплом.

Прафесійны ўзровень удзельнікаў конкурсу, ступень вакальнай падрыхтоўкі, як і складанасць іх праграм, былі рознымі. Тым не менш для журы не лёгка было вылучыць лепшых. Найбольш адказным аказаўся другі тур, бо пасля яго нарэшце з'явіліся лічбавыя адзнакі, якія давалі магчымасць прагназаваць вынікі конкурсу. І сапраўды, у трэцім туры барацьба ішла ўжо толькі за якасць узнагарод. Але ж не варта забываць і аб тым, што гэта быў цудоўны канцэрт.

Заключны дзень конкурсу пачаўся вельмі ўрачыста — з прамоў сяброў журы і ўзнагароджання дыпламантаў і лаўрэатаў.

Дыпломы за ўдалае выступленне ў конкурсе атрымалі Вольга Рузіна, Алена Амбразевіч, Алена Антонава, Алег Кавалеўскі. Усе яны — студэнты Беларускай акадэміі музыкі. Трэцяй прэміяй была ўзнагароджана Наталля Трашко.

Лаўрэатам Другой прэміі стаўся Аляксандр Краснадубскі, натхнёны і таленавіты музыкант. Ён атрымаў таксама і спецыяльную ўзнагароду за лепшае выкананне твораў польскага кампазітара Станіслава Манюшкі. Ягоны "Сельскі лірнік" вельмі шчыра прагучаў і ў заключным канцэрце.

Як лепшы канцэртмайстар быў адзначаны Ігар Чарнін. Іхні дуэт з А.Краснадубскім быў, безумоўна, адным з лепшых.

Лаўрэаты першай прэміі — Ніна Шарубіна, захапіўшая слухачоў сапраўдным драматызмам свайго выканання, і Марына Шчурок, студэнтка Адэскай кансерваторыі, спявачка шырокага стылёвага дыяпазону і высокага творчага патэнцыялу.

* * *

Аб дзівосных магчымасцях голасу складалася ў мінулым шмат казак, прыгожых паданняў. Пачутыя ў маленстве ад матулі ці ад бабулі гісторыі вабілі сваёй фантастычнасцю, нібыта дарылі крылы. Хто ў цудоўных фантазіях не ўяўляў сябе спеваком-чараўніком? Але дарослыя не ўспрымалі ўсур'ёз дзіцячыя думкі і толькі з замілаваннем глядзелі на натхнёныя твары, не ведаючы нават, што неверагодныя мары часам здзяйсняюцца.

Магчыма, калісьці такімі хлопчыкамі і дзяўчынкамі былі цяперашнія ўдзельнікі II Нацыянальнага конкурсу РБ.

**Людміла ЛАЗАРЧЫК**

КАРАНІ



# АЎТЭНТЫЧНАСЦЬ

***Першы Міжнародны фестываль фальклору, што адбыўся сёлета ў Пінску, увачавідкі ўзняў мноства пытанняў адносна шляхоў, па якіх мусіць ісці адраджэнне і развіццё традыцыйнай народнай культуры. Сталася відавочным, што паняцці "аўтэнтычны фальклор" або "другасныя формы фальклору" датычаць не толькі сцэнічных праграм шматлікіх музычных гуртоў — добра вядомых і новых, — але таксама адзення саміх выканаўцаў.***

***Менавіта ў фальклоры сучасны чалавек шукае сапраўднасць, праўдзівасць, натуральнасць — усё тое, чаго яму нестае ў "тэлевізійна-асфальтавай" гарадской культуры. Замежнае слова "аўтэнтычнасць" спалучае ў сабе разам усе тыя прыкметы фальклору, што, як лакмусавая паперка, здольныя вызначыць ягоную галоўную каштоўнасць. Без аўтэнтычнасці, вядома ж, фальклор ператвараецца ў нешта другаснае і падробнае.***

Прызнаюся, што мяне на фестывалі галоўным чынам цікавіла не тое, што адбывалася на пляцоўках — спевы, танцы, выкананне абрадаў. У шматколерным тлуме фальклорных гуртоў шукала я сапраўднае адзенне розных рэгіёнаў Беларусі. Менавіта гэтая прафесійная цікавасць паклікала мяне ў Пінск.

Сярод разнастайна апранутага шматлюддзя не цяжка было вылучыць сапраўдныя традыцыйныя строі Беларускага Падняпроўя, Палесся, Паазер'я. Немагчыма было пераблытаць, напрыклад, матылянак, выстраеных у тонкі белы кужаль з далікатнымі пасачкамі чырвонага колеру, ці бярозаўскіх паляшучак у чапцах пад накрухмаленымі хусткамі з маларыцкімі жанчынамі, убранымі ў старадаўнія наміткі, буркі, цалкам упрыгожаныя чырвоным геаметрычным арнаментам, ці лельчыцкімі майстрыхамі і на спевы, і на вышыўку яркімі кветкамі на кашулях і фартухах.

Неаднойчы на фестывалі прыгадвалася, што калісьці менавіта па вопратцы, па адметнасці адзення пазнавалі на беларускіх кірмашах сялянак з розных мясцовасцей і нават з асобных вёсак. На свае ж вочы пабачыць разам амаль усё багацце беларускага народнага адзення давялося ўпершыню. Не ў музеі за шклом на манекенах, не на фотаздымках у альбоме, а жыўцом. Традыцыйныя строі не толькі красілі, упрыгожвалі ўдзельнікаў фестывалю, яны танчылі і спявалі разам з людзьмі.

На жаль, не было на фестывалі даследчыка беларускага народнага адзення Міхася Раманюка. Здаецца, і ён ніколі не бачыў такой вялізнай "калекцыі", што дэманстравалася ў тыя дні на вуліцах Пінска і на канцэртных пляцоўках — амаль усе вызначаныя ім рэгіянальныя і лакальныя строі. А вось польскаму госцю Мар'яну Пакропку, прафесару кафедры этналогіі Варшаўскага універсітэта пашчасціла ўбачыць і сфатаграфаваць разам у адным месцы аўтэнтычнае адзенне ўсёй Беларусі.

Вельмі важная праблема ўсякага фальклорнага свята — адзенне ўдзельнікаў. Пытанне — у што і як апрануць музычны гурт, заўсёды было актуальным, Памятаю, што ў былыя гады Міністэрства культуры, не маючы даверу да кіраўнікоў калектываў і мастакоў, мела мастацкі савет, які павінен быў абавязкова зацвердзіць эскізы касцюмаў. Але ж праблемы са сцэнічным адзеннем па сённяшні дзень у рэспубліцы не вырашаны. Таму нават на фестывалі, напярэдадні якога быў праведзены строгі агляд калектываў, сцэнічныя касцюмы некаторых удзельнікаў выклікалі абурэнне ў спецыялістаў па традыцыях народнага адзення. Нават у вядомых калектываў "Неруш" з Мінска і "Радасць" з Брэста сустракаўся ў адзенні "боб з гарохам" — штучныя і безгустоўныя спалучэнні розных арнаментаў, колераў, формаў.

Фестываль прадэманстраваў не столькі замежным удзельнікам і гасцям, якіх было няшмат, а перш-наперш нам самім, на што мы багатыя. Багатая краіна Беларусь на фальклор, на аўтэнтычнае мастацтва. Як ні бедна мы сёння жывем, а страціць гэтае багацце нам недаравальна. Здаецца мне, што канцэпцыя наступнага, Другога Міжнароднага фестывалю павінна быць перагледжана з улікам значнасці і пакуль яшчэ масавасці аўтэнтычнага фальклору, які маем. Гэтая асаблівасць, адметнасць менавіта Беларускага фестывалю, на мой погляд, павінна прывабіць да яго замежных удзельнікаў і гасцей.

Мела рацыю госця фестывалю з Амерыкі Таццяна Кудраўцава, руская па паходжанні, калі на прэс-канферэнцыі гаварыла, што трэба праводзіць фестывалі часцей, не меней чым раз на два гады, бо толькі тады будуць ведаць беларускі фестываль у свеце і знойдзецца шмат ахвотнікаў прыехаць, нават з-за акіяна (дадам — і плаціць за нашае багацце грошы). Пакуль што Першы фестываль ніякага прыбытку не меў, былі толькі вялізныя выдаткі.

У рэкламе наступнага фестывалю абавязкова трэба падкрэсліваць і акцэнтаваць увагу на тым, што госці змогуць азнаёміцца з традыцыйнай музычнай і выканальніцкай беларускай культурай, а таксама з традыцыйным народным адзеннем.

Сапраўды, у якой краіне свету ўбачыш, каб на выканаўцах было саматканае, вышыванае адзенне, зробленае на пачатку стагоддзя і нават напрыканцы мінулага? Сярод строяў сустракаліся часам сапраўдныя шэдэўры ткацтва і вышыўкі. Шэдэўры народнага пачуцця харaства, гармоніі, пластыкі, арнаменту, колеру. Жывы музей народнага адзення шпацыраваў па вуліцах Пінска ў дні фестывалю.

Заўважыла на фестывалі, дарэчы, новую з'яву. Цікавасць да фальклору, да стварэння аўтэнтычных гуртоў, пошук сапраўдных выканаўцаў на месцах пацягнулі за сабой таксама цікавасць да сапраўднага старадаўняга адзення. Не сцэнічных касцюмаў "на ўсіх і для ўсіх", што тыражуюцца ў вялікай колькасці, а менавіта адзення традыцыйна мясцовага, якое раней насілі матулі і бабулі тых, хто спявае сёння ў фальклорных гуртах. Такія мясцовыя пошукі прыводзяць нават да адкрыццяў.

Напрыклад, я вельмі была ўражана, калі ў Пінску ўбачыла бабулек у сініх у белыя краткі льняных доўгіх спадніцах, ды яшчэ з арнаментам па долу, фартухах, перацыканых старажытным арнаментам, кашулях з вышыўкай, што ўласцівая на Беларусі толькі дубровенскаму строю. Сапраўды, прыехалі тыя бабулькі (а старэйшай з іх 84 гады) з вёскі Ляды Дубровенскага раёна на Віцебшчыне.

Добра памятаю тую прыгожую вёску з часу экспедыцыі, дзе ў 1981 годзе разам з супрацоўніцай Мастацкага музея Валянцінай Пісарэнка з вялікай цяжкасцю адшукалі толькі адзін традыцыйны для гэтых мясцін строй. Тая знаходка цяпер — у вітрыне з адзеннем Музея беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах. Здавалася тады, што больш у той вёсцы ўжо нічога не знайсці. А тут цалкам калектыў, апрануты ў сапраўднае дубровенскае адзенне, і кожны строй не горш за іншы.

Прыемна таксама, што моладзь імкнецца выступаць у сапраўдных строях. З фальклярыстычных экспедыцый удзельнікі маладзёжных гуртоў прывозяць разам занатаваныя песні, музыку і аўтэнтычныя кашулі, андаракі, фартухі. Так, у цудоўны ляхавіцкі строй была апранута Наталля Матыліцкая, таленавітая маладая выканальніца і вядучая першых фестывальных канцэртаў.

Нельга было не заўважыць сярод удзельнікаў мінскага гурта "Крэсіва" Валянціну Якімовіч у зграбным падняпроўскім строі з наміткай.

Мяркую, што ў праграму наступнага фестывалю трэба ўключыць, акрамя канцэртаў і выступленняў калектываў, дэманстрацыю строяў беларускага народнага адзення. Такія паказы могуць суправаджацца не толькі каментарыямі мастацтвазнаўцаў, але і ўласнымі аповядамі тых, каму належаць гэтыя строі. Хіба не цікава будзе гледачу, напрыклад, паслухаць, што строй быў вытканы яшчэ бабуляй выканальніцы для свайго вяселля?

Першы крок да гэтага ўжо зроблены. Музей Беларускага Палесся ў Пінску і Брэсцкі абласны краязнаўчы музей наладзілі выставу народных строяў, якая працавала ў Доме культуры ў час фестывалю.Узрадавала яшчэ адна выстава ў Пінску. Яна была прысвечана толькі адной частцы традыцыйнага адзення — фартуху — і мела назву "Драгічынскі фартушок". Нідзе болей на Беларусі не знайсці такіх кужэльных шырокіх, упрыгожаных тканым арнаментам ці вышыванымі кветкамі фартухоў. Сустракаюцца яны толькі ў некалькіх вёсках на Драгічыншчыне. Збіраў і ўпершыню дэманстраваў гэтыя фартухі як з'яву народнага мастацтва Драгічынскі краязнаўчы музей. Музей гэты новы, існуе толькі год, а створаны ён быў па ініцыятыве кіраўніка Брэсцкага абласнога ўпраўлення культуры А.Клімчука, які сам паходзіць з гэтых мясцін і памятае тыя святочныя фартухі яшчэ з дзяцінства.

Калісьці бачыла я ў Браціславе на Свяце народных рамёстваў дэманстрацыю народных строяў. На пляцы перад музеем маладыя хлопцы і дзяўчаты парамі пад акампанемент фальклорнага музычнага гурта паказвалі строі розных рэгіёнаў Славакіі. Аднак заўважыла, што ўсе строі былі сучаснага выканання, добра і дакладна зробленыя копіі.

Дарэчы, і на нашым фестывалі назірала, як госці з Расіі — фальклорны гурт з белгародскай вобласці — шанавалі сваё адзенне. Міма ўдзельнікаў гэтага гурта нельга было прайсці, не затрымаўшыся, нават калі яны не спявалі, — такія багатыя, з залатым зіхаценнем, з нябачаным у нашых мясцінах спалучэннем пластыкі, колераў, былі іхнія строі. Апранутыя на іх стогадовыя бабуліны панёвы ўзорыстага ткацтва, вышываныя чорным арнаментам кашулі былі рэчамі музейнай каштоўнасці. Але гэты гурт, ад'язджаючы на вячэрні канцэрт у вёску на раёне, пераапрануўся ў будзённыя кумачовыя кашулі ўжо сучаснага выканання.

У хуткім часе паўстане і перад намі праблема замены аўтэнтычнага адзення, у якім сёння выступаюць яшчэ некаторыя фальклорныя гурты, на копіі, а таксама неабходнасць стварэння касцюмаў-копій для новых гуртоў. Вядома, што песня, музыка жыве дольш, чым кашуля, фартух, спадніца. Адыходзяць ад нас бабулі, што так цудоўна спяваюць, а разам з імі знікаюць створаныя іхнімі рукамі прадметы народнага мастацтва, забываюцца старажытныя жаночыя рукадзельныя рамёствы.

Копіі традыцыйнага адзення, часцей за ўсё — вышыванкі і паясы ўжо спрабуюць рабіць энтузіясты з маладзёжных гарадскіх фальклорных гуртоў. Аднак гэтага недастаткова. Каб апрануць шмат калектываў, трэба мець нейкія ўстановы, якія ўзялі б гэтую цяжкую справу на сябе. Гадамі гэтая справа ў рэспубліцы не рухалася з месца, хаця шмат аб гэтым гаварылася. Фестываль паказаў, што нейкія зрухі ўсё ж адбыліся. Напрыклад, Лепельскі Дом рамёстваў выканаў для свайго раённага фальклорнага калектыву вышываныя кашулі, узяўшы за ўзор ледзь не апошнюю, што захавалася ў мясцовым музеі, а таксама паясы. Ужо пачалі працаваць у гэтым Доме рамёстваў кросны, у хуткім часе можна будзе зрабіць на іх сапраўдныя лепельскія тканіны на спадніцы для ўдзельнікаў гурта.

Таму не без падстаў лічу, што адраджэнне традыцыйных рамёстваў, перш-наперш ткацтва, у Дамах рамёстваў, якіх пакуль няшмат у краіне, мусіць закласці грунтоўныя падставы для стварэння традыцыйнага адзення — копій для фальклорных гуртоў, а таксама сучаснага сцэнічнага адзення паводле народных традыцый.

У апошнім накірунку сёння працуе толькі адзіная на Беларусі ўстанова — Цэнтр беларускіх народных рамёстваў "Скарбніца" ў Мінску. Дарэчы, нядрэнна на фестывалі выглядаў у распрацаваных і выкананых "Скарбніцай" касцюмах гурт "Дзянніца" з Дрыбіна. Рукатворнасць гэтых касцюмаў з багатай ручной вышыўкай добра адлавядае галоўнай каштоўнасці народнага адзення — сапраўднасці.

Але ж "Скарбніца", былая Навукова-эксперыментальная лабараторыя ў сістэме промыслаў, у гады перабудовы змяніла шыльду, але так і не здолела стацца сапраўдным цэнтрам адраджэння народных рамёстваў, які сёння так неабходны рэспубліцы. Маючы назапашаны ў былыя гады значны архіў, багаты метадычны фонд — адзіная ў сваім кшталце на Беларусі, сённяшняя "Скарбніца" страціла свае лепшыя кадры мастакоў і мастацтвазнаўцаў і паціху ператвараецца ў звычайнае прадпрыемства, што выконвае заказы і робіць тыражную масоўку.

Метадычны і каардынацыйны Цэнтр па народных мастацтвах, промыслах і рамёствах, безумоўна, павінен існаваць. Бо няма куды сёння звярнуцца па дапамогу аматарам, якія хочуць вышыць сабе кашулю, Дамам рамёстваў, кіраўнікам шматлікіх музычных гуртоў, якія спрабуюць адраджаць і вучыць традыцыйным беларускім рамёствам. У такім Цэнтры павінна была б збірацца інфармацыя, архівы па народным мастацтве, пакладзенныя на сучасныя камп'ютэрныя сродкі.

Іншыя краіны маюць такія Цэнтры. Напрыклад, у Славакіі існуе Цэнтр народнай творчасці "УЛОФ", дзе ў аддзеле дакументацыі няцяжка атрымаць, напрыклад, поўныя дадзеныя па кожным народным строі — выкрайкі, занатаваныя тэхналогіі выканання, арнаменты.





У Беларусі, відаць, толькі наперадзе стварэнне такога Цэнтра. Добра, што жыццё ўсё больш настойліва патрабуе, каб мы звярталіся да сапраўднага, роднага, ведалі яго, шанавалі і адраджалі. У гэтым пераканаў Першы Міжнародны фестываль фальклору. Яшчэ доўга будзем мы ўспамінаць яго святочныя дні, рабіць высновы і спрачацца аб ягоных выніках. Але ж наперадзе, без сумнення, Другі фестываль да якога трэба ўжо пачынаць рыхтавацца.

**Вольга ЛАБАЧЭЎСКАЯ,**
**вядучы навуковы супрацоўнік Беларускага інстытута праблем культуры**

*На здымках:* фальклорны гурт з в.Стары Дзедзін Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці; удзельнікі гурта з в.Ляды Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці; Марыя Лямешка з в.Збураж Маларыцкага раёна Брэсцкай вобласці ў шлюбным строі сваёй маці.

**Фота з архіва аўтара**

ЗАМЕСТ КРОПКІ

***Трапіць на канцэрт "Slade" у Мінску не складала ніякай цяжкасці. Ажыятажу не было, быў энтузіязм толькі ў "фанаў" далёка не юнага ўзросту. Прычына? Мяркую, адной не абыдзешся. Па-першае, у нас няма вопыту "раскруткі" рок-гуртоў нават на ўзроўні рэкламы: тая чырвоная паперка ў вагонах метро шырокай публіцы, асабліва моладзі, нічога не гаварыла, як, дарэчы, і лаканічныя аб'явы па радыё і тэлебачанні. Па-другое, дарагаватыя квіткі, хоць і для пэўнай часткі публікі іх цана не такая ўжо і страшная. Па-трэцяе, і гэта, на мой погляд, ужо сур'ёзна: сённяшняя моладзь у нашай краіне выхавана на "расейскай папсе", кола яе густаў замыкаецца на "На-на".***

***Без праблем, не паказваючы дзесяткі разоў сваё рэдакцыйнае пасведчанне, мог трапіць на прэс-канферэнцыю і любы журналіст. Арганізатары шоу — музычнае агенцтва "Начыні" (фундатар "Комплеск-банк") — прыязна паставіліся да прэсы, але апошняя, здаецца, ужо традыцыйна дэманструе свой правінцыялізм. Так што амаль у пустой зале прэс-канферэнцыя практычна ўяўляла сабой цёплы дыялог карэспандэнта "Культуры" з зоркамі рок-н-ролу самай першай велічыні. Таму кароткі запіс яго можна назваць эксклюзівам нашай газеты. Асноўнае ўражанне ад сустрэчы твар у твар са "слэйдаўцамі" — мілыя, інтэлектуальныя і прыязныя людзі, што не зусім стасуецца са звыклым для нас іміджам большасці гастралёраў з усходняй дзяржавы. І размова пайшла ў сур'ёзным рэчышчы. У асноўным на пытанні адказвалі ветэраны — Дэйв Хіл і Дон Паўэл, іх дапаўнялі маладзейшыя калегі. І па сутнасці ўзнікала іх агульная думка. Таму і не хочацца расчляняць яе на асобныя выказванні. Гэта меркаванне калектыву аднадумцаў — гурта "Slade".***

# "Slade": "Рок-н-рол — дакументальная музыка"




**Вячаслаў Ракіцкі ("Культура"):** У бязмежным акіяне сусветнай рок-музыкі сёння працуюць музыканты розных пакаленняў. Многія з тых, хто пачынаў у 60 — 70-я гады, дасягнуў тады вяршынь, ніколі сцэну не пакідалі і не пакідаюць. Больш таго, у апошнія гады ў іх адкрылася новае дыханне, і публіка самых розных пакаленняў аддае ім свае сімпатыі. Пол Макартні, Эрык Клэптан, Элтан Джон, Філ Колінз, Джо Кокер, Мік Джагер, Роберт Плант сёння зноў займаюць першыя месцы ў розных хіт-парадах. Вяртаюцца на сцэну, запісваюць новыя кампакты тыя, хто, здавалася б, адышлі ў гісторыю. "Slade" — таму прыклад. Як на вашу думку, чаму зусім новае пакаленне слухае музыку вашага (нашага) пакалення, аддае ёй перавагу?

**"Slade":** Музыка, якой мы займаліся, меладычная. І як востра яна ні гучала б, мелодыя ў ёй захоўвалася. Сёння зноў людзі адчуваюць патрэбу ў такой музыцы. Моладзь, якая зараз слухае значна больш, чым у наш час, стамілася ад тэхнічна-вынаходлівага цэлы пласт, класіка рок-культуры і культуры Еўропы ўвогуле. Іх сёння граюць ва ўсім свеце музыканты, якія спяваюць розныя стылі. Аналагічны лёс і лепшых нашых песень. У 60 —70-я гады было лёгка распазнаць, хто грае. "The Beatles", "Rolling Stones", Род Сцюарт, "Slade" — кожны гурт, кожнага музыканта ведалі ў твар. Сёння існуе велізарны канвеер, які стварае музыку. Працуюць тысячы выканаўцаў, і большасць з іх падобныя паміж сабой. У гэтай масе нават немагчыма разабрацца, хто ёсць хто? У плыні танцавальнай, электроннай музыкі можа вылучыцца толькі той, хто індывідуальны. Вось чаму зноў слухаюць "Slade" і іншых сямідзесятнікаў.

**В.Р.:** Сённяшняя музыка — гэта музыка відэа. Рок-музыка становіцца ўсяго толькі элементам відэа-культуры. Мяркую, што яна таксама вінаватая ў тым, што знікаюць індывідуальнасці, твары музыкаў. Асабіста я не люблю кліпаў, аддаю перавагу запісам жывых канцэртаў, у якіх бачу імгненні стварэння музыкі, моманты творчасці.

**"Slade":** Амаль разам з намі вярнуўся ў музыку гурт "Sweet" і цікава працуе. Хто наступны, цяжка сказаць. Многія думаюць, што лепш не лезці туды, дзе працуюць маладыя, што з "учарашняй" музыкай цяжка прабіцца на сучасны рынак, рабіць запісы. Многія песні пішуцца пра свой час, у які жывеш. І калі становішся старэйшым, ужо баішся, што цябе не зразумеюць, бо гэты час бачыш інакш, чым маладзейшыя. Зараз мы не напішам і не сыграем так, як колісь, бо быў іншы ўзрост, іншае адчуванне часу. Але мы робім гэта, хоць і не тымі ж словамі, мелодыямі, але пад уражаннем таго, што было тады. Сённяшнія маладыя гурты вельмі інфантыльныя, каб нечага сцвердзіць, заявіць сваёй музыкай. Мы ж заўсёды пісалі пра жыццё, пра час, каб чалавек мог вярнуцца з канцэрта дамоў і думаць: жыццё — цудоўнае. Гэтым займаемся і зараз. У сямідзесятыя мы былі ў пастаянных раз'ездах. Наведалі шмат краін. Набылі вялікі вопыт, здавалася, што ўжо ўсё зразумелі пра гэтае жыццё. І вось мы тут, куды і не думалі, што калі-небудзь прые-

гуку, за якім няма ні мелодыі, ні сэнсу. Сучасныя маладыя людзі — дзеці тэхналагічнай індустрыяльнай культуры. Яны шмат зразумелі, адчулі патрэбу ў сапраўднай музыцы, але каб пачаць яе іграць, трэба вярнуцца назад, каб вывучыць традыцыі, карані рок-ролу. Уся значная музыка, зробленая ў 60 — 70-я гады, ужо прагучала ў новых, сучасных апрацоўках. Сёння ўзнікла патрэба пачуць яе у арыгінальным варыянце.

**В.Р.:** Сённяшняя моладзь — гэта ўжо дзеці "рокераў" пачатку сямідзесятых. Той рок, які гралі іх бацькі ці які яны слухалі як музыку бацькоў, аб'ядноўвае два гэтыя пакаленні. Ці не тут можам назіраць перспектыву ў працягу і развіцці лепшых традыцый сур'ёзнай рок-музыкі?

**"Slade":** Музыка нашай маладосці не належыць толькі нашаму пакаленню. Добрая песня існуе сама па сабе, яна спяваецца, і людзі ў той ці іншай ступені да яе звяртаюцца. Да прыкладу, тады, калі мы пачыналі, былі моднымі і папулярнымі "The Beatles". Яны і сёння для нас непераўзыдзеныя і актуальныя. Калі мы слухаем "The Beatles", то і вяртаемся ў сваё юнацтва, і пражываем іх кампазіцыі ўжо сённяшнім жыццёвым і эстэтычным вопытам. Гэтая музыка сілкуе душу і ў асобнага чалавека, і ў цэлага пакалення. Многія песні "The Beatles" сталі класічнымі. Гэта

**"Slade":** Відэакліп ілюструе дзеянне адносна песні, а не людзей, якія яе пішуць і выконваюць. Тут і розніца паміж жывой творчасцю і відэавобразам, які тыражуецца мільёнамі экземпляраў. Калі мы пачыналі, не існавала відэа, дый тэлебачанне было мала развітым. Музыка тады азначала толькі жывога чалавека. Можна было пайсці ў паб, піць піва і слухаць жывога чалавека з яго жывой музыкай. Нават запісы, кружэлкі выходзілі пазней. Спачатку была жывая музыка, хай сабе ў тым жа пабе, а пасля ўжо тыражавалася. Жывая музыка — гэта аснова, школа. Я (Дэйв Хіл. — **В.Р.**) граў шэсць гадоў, пакуль выйшаў першы запіс. Сёння ў музыку часта прыходзяць людзі пасля знаёмства з музычнымі часопісамі: ага, гэты стыль папулярны, паспрабую і я ім заняцца. Можна хутка дабіцца поспеху, але гэтакжа хутка і яго згубіць. Для многіх сучасных каманд заняцца музыкай — усё роўна што купіць магнітафон, а праз два гады, калі з'явіцца новая мадэль, новы гук, выкінуць яго і купіць новы.

**В.Р.:** "Slade" вярнуўся ў рок-н-рол, хоць і ў напалову зменeным складзе. Хто наступны? І ўвогуле: ці лёгкае яно, вяртанне? Як бы мы крытычна ні ставіліся да таго, што сёння адбываецца, тым не менш рытмы жыцця апярэджваюць нас.

дзем.Гэта нібы стаіш перад зачыненымі дзвярыма і ведаеш, што за імі, але адчыняеш іх, а там столькі ўсяго новага, што аж дух захоплівае.

**В.Р.:** І што вы паспелі ўжо ўбачыць за гэтымі дзвярыма, якія доўгі час для вас былі зачыненыя?

**"Slade":** Зараз у многіх гуртоў ёсць амбіцыі сыграць у краінах Усходняй Еўропы, імкненні ажыццявіць захоп новых тэрыторый. Цікавасць да вас аднадзначная. На захадзе публіка вельмі збалаваная вялікай колькасцю гуртоў. Праверце, гэта сумная публіка. У вас, як і ў краінах Балты, дзе мы гастралявалі летась, сустракаеш той энтузіязм, які быў у Англіі, на Захадзе ў сямідзесятыя гады. Гэта тая свежасць, якая падтрымлівае дух. У нас з цяжкасцю ўяўляюць, што ёсць такая краіна Беларусь. Усіх, хто жыў у СССР, называюць рускімі. Цяпер мы будзем расказваць у Лондане і пра вашу незалежную краіну, вашу гісторыю.

**В.Р.:** Чым з'яўляецца для вас рок-н-рол?

**"Slade":** Калі мы пачыналі, у старэйшага пакалення гэтая музыка лічылася жывёльнай. Пасля таго як на ёй сталі рабіць вялікія грошы, у капіталістычным свеце яе пачалі паважаць. У нас усё тое паважаюць, на чым можна зрабіць грошы. Таму гісторыю нашай краіны можна прасачыць і па гісторыі рок-н-ролу, як гісторыю ЗША паводле эвалюцыі блюза. У гэтым сэнсе рок-н-рол — дакументальная музыка. Займацца ёй — значыць набываць дзівосны вопыт, які падтрымлівае жыццё і дазваляе ісці далей. Будзем шчырымі і сумленнымі: сённяшні "Slade" — гэта не той калектыў, які быў колісь папулярным, таму мы нават называем сябе "Slade-II". У сэнсе музыкі мы істотна змяніліся, пайшлі ўперад у разуменні, што ёсць рок-н-рол, змянілася гучанне. Але мы працягваем граць, захоўваючы дух "Slade". Мы гралі дзесяць гадоў і не можам рабіць нічога іншага. Рок-н-рол — наша жыццё, наша праца. А яны звязаныя паміж сабой. Калі пакідаеш у музыцы жыццё, то яго ўжо нельга забіць, яго нельга не любіць.

Мінск, 5 снежня 1994г.

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік — Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара — Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія: А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ

Адказны сакратар — Пётра ВАСІЛЕЎСКІ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютарная вёрстка — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі: 220029, МІНСК (МЕНСК), вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1. Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.
©
Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 6000
Замова 28
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.